№ 50. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопіс
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністраціі і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 50 (142). Год II. Вільня, 22 чэрвеня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## Беларускі Народны Камітэт апавешчае свае трэбаваньня, жадаючы перастройкі Расеі у фэдэрацыйную рэспубліку і незалежнасьці Беларусі.

## 200 марак награды.

### 21 чэрвеня.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: У Фляндрыі і Артуа пры больш яснай пагодзі крапчэла артылерыйская бітва. Каля узбярэжжа ў часі начной напасьці ўзято ў палон некаторае число англічан. На Іпры ўчора і сягоньня раніцай адбіты сільные наступленьня ворагоў.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: Пры Воксэйён, на паўночным усходзі ад Суассон, пасьля кароткай, сільнай падгатоўкі мінамётным агнём, мы здабылі штурмам француcкую пазыцію на шырыні 1500 мэтроў. Крывавые страты ворагоў вельмі цяжкіе. Ўзяты 160 палонных і 16 кулемётаў, узорваны некольні мінамётаў. У здабытых акопах мы ў дзень адбілі вострые контратакі французоў. На заходнім беразі Сюіпп—у вечары сільны агонь.

**Усходні тэатр:**

Каля Луцка, Залатой Ліпы, Нараёўцы і на поўдні ад Днестра расейская артылерыя, ды ў гэткай жэ меры і наша былі больш чынные, чым у апошніе дні. Разведачные дружыны расейцоў мы адагналі.

*Македонскі фронт*: У Даліне Струмы англіцкіе роты і эскадроны прымушэны адыйсьціся назад.

---

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Міністэр заграпічных спраў заявіў, што Злучэные Штаты не зрабілі с саюзьнікамі ніякай умовы. Аб сазыве конфэрэнцыі саюзьнікоў міністэр сказаў, што яна прыгатаўляецца.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Тут сабраліся на з'езд дэпутаты ад казакоў, каб выясьніць адносіны казакоў да тымчасоваго правіцельства, устаноўчаго сэйму, вайны і іншых спраў.

Работа нарады гаспадароў капальнёў і іх работнікоў выказала агульную ахвоту да ўзаемных уступак.

БЭРН. «Bund» даносіць, што швэйцарскаму паслу ў Пецярбурзі забаронено пасылаць тэлеграмы, пісаные таемным пісьмом.

У Расеі ідзе патайная англіцкая агітацыя між работнікамі і салдатамі, між каторымі раздаюць лісткі с чулымі адозвамі на карысць саюзьнікоў.

ШТОКГОЛЬМ. Прыбыўшая з Расеі асоба кажэ, што **Расея—на перадодні вялікіх прыпадкоў**. Родзянко прасіў членоў Думы не выежджаць. Буржуазія прыгатаўляе **перэварот проці соцыялістоў**. У вялікшых местох усюды пастаўлены казакі.

Справу Сухомлінова і яго жонкі вышэйшы ваенны суд пачне разгледаць 28 чэрвеня. У найбліжэйшых днях будзе апавешчэн дзень суда над Штырмэрам, Протопоповым і Шчэгловітовым.

**Адважные беларусы.**

9 красавіка гэтаго году каля маста праз Вільлю пры Немэнчыне, падбродзкаго пав., здарылося сумнае нешчасьце. Лёдаломы перад мастом былі ў небаспечнасьці ад плыўшаго лесу. Тры сапёры атрымалі загад ачысьціць іх, але с прычыны сільнаго цячэньня чоўн перэвярнуўся, і двое ўтануло, а трэйцяму ўдалося выратавацца, узлезшы на адзін з лёдаломаў. Двое адважных людзей, Францішак Стэндэль з Маляцішэк і Язэп Іваноўскі з Немэнчына на няпэўным рыбацкім чоўне з небаспекай для свайго жыцьця падплылі да сапёра і прывезьлі яго на бераг.

П. Глаўнакамандуючый па Ўсходзі, прызнаваючы іх ахвярнасць, абодвым адважным плаўцом назначыў высокую награду.

## З нашаго жыцьця.

Нацыональнае жыцьцё кожнаго народу абнімае ўсе яго жыцьцёвые праявы. І толькі тады, калі ўсе патрэбы нацыі здаволіваюцца ў поўнай меры, — толькі тады можна сказаць, што народ жыве поўным нацыональным жыцьцём.

Німа слоў: у часі вайны ўсё нашае жыцьцё страшэнна звузілося, сталося нейкім аднабокім. Аб здаволеньні цэлых галін яго ня можэ быць і гутаркі. Дагэтуль у нас, у беларусоў, нацыональная работа развіваецца толькі ў адным кірунку: на грунці нацыоналізацыі народнай школы. Але і тут — ня ўсё добра.

А нядобра дзеецца на каталіцкай Беларусі. Праўда, што народ тут ешчэ не мае поўнай сьвядомасьці сваей нацыональнасьці, і на першым мейсцы ў яго стаіць пачуцьцё рэлігійнай прыналежнасьці. Але каталікі-беларусы гавораць тэй жэ беларускай мовай, як і іх браты праваслаўные, жывуць тымі-ж культурнымі здабыткамі, маюць тые-ж песьні, казкі, легенды, тые-ж праўные паняцьця і той самы сьветагляд. І гэтак ёсць на ўсей каталіцкай Беларусі — пачынаючы ад ваколіц Вільні і канчаючы ваколіцамі Аўгустова ў Сувальшчыне, хаця ў некаторых мейсцох беларуская хваля, пасоўваючыся с поўдня і з усходу, сотні гадоў таму назад заліла і стапіла ў сабе чужые нацыональные элемэнты. Тым часам як раз проці гэтай часьці нашаго народу нацыоналісты некаторых тутэйшых нацыональнасьцей вядуць непрымірымую барацьбу: адны — яўна, другіе — пускаючы ў ход розные інтрыгі, ды пры гэтым адны і другіе дашуківаюцца між беларусамі «сваіх», даводзячы, бытцым беларусы-каталікі, хоць і гавораць па-беларуску, зусім ня ёсць беларусы і зробяцца акуратнымі палякамі, ці ешчэ кім іншым, абы толькі ім даць адпаведную ў чужой мові школу. Слова ў слова — тое, што казалі калісь маскоўскіе чыноўнікі, праводзячы палітыку абрусеньня ў гэтым «ісконі-русскім» краю...

На грунці гэтых дамаганьнёў польскіх нацыоналістоў робіцца тое, што на каталіцкай Беларусі дагэтуль зусім німа беларускіх школ. Для беларусоў-каталікоў усюды ёсць адно толькі польскіе народные школы, і, як пахваляюцца палякі, беларускіе дзеці скора адвыкаюць ад сваей беларускай гутаркі, абертаючыся ў «добрых палякоў». Гэты раздзел праводзіцца нават там, дзе ў аднэй вёсцы жывуць у перамешку беларусы праваслаўные і каталікі. Даволі, дзеля прыкладу, ўзяць хаця-бы Сьвіслоч: тут у тых самых мурах ёсць дзьве школы — беларуская і польская. У першую ходзяць беларускіе дзеці праваслаўные, у другую — такіе-ж беларускіе дзеці каталікі. І адны і другіе, гуляючы разам на падворку, гавораць між сабой у роднай беларускай мові, а як разыходзяцца на навуку, дык каталікі зразу абертаюцца ў «палякоў».

Так робіцца беларусам вялікая крыўда, якую папpавіць нет ведама, ці удасцца, калі гэткі стан будзе трываць даўжэйшы час. Толькі поўная перамена школьнай палітыкі, толькі будаваньне школы народнай **на аснові прызнаньня правоў матчынай мовы**, не задумываючыся, як у тэй ці іншай ваколіцы гаварылі людзі сто, дзьвесьці або трыста гадоў таму назад, можэ спыніць зло, якое скора зробіцца непапраўным.

Другая крыўда, якую церпяць беларусы, — гэта тое, што, оффіцыяльна прызнаная роўнапраўнай з усімі краёвымі мовамі, беларуская мова на практыцэ з гэтых правоў не карыстае. Праўда, офіцыяльные апавешчэньня вышэйшых урадоў друкуюцца і па-беларуску; але — толькі вышэйшых, бо розные ніжэйшые урады, не знаючы гэтай мовы, звертаюцца да беларускіх селян па-польску— на пісьме і на словах. Па ўсіх паветах, нават там, дзе працуюць людзі мейсцовые, калі беларус звертаецца ў якой справі да урадніка—свайго-ж брата беларуса— па-беларуску, аму адказваюць папольску, і ніхто не задумываецца над тым, што ён служыць тым самым беларусам, бо з іх грошы атрымлівае сваю пэнсію, што не народ павінен знаць мову сваіх чыноўнікоў, а **тые чыноўнікі, калі ня ня ўмеюць, павінны навучыцца мовы народнай**. Дый умець то яны ўмеюць, — асабліва у правінцыі; але беда ў тым, што ня хочуць нагінацца да народу, што ім **«мужык сьмярдзіць»** і мова яго —так сама!

І гэту бяду звясьці не так ужо трудна, толькі павінен быць цьвёрда праведзен на практыцэ той прынцып, які апавешчэн у тэорыі: **ўсе чыноўнікі павінны знаць на Беларусі мову беларускую, як у**

кам курса, прынімаючы пад увагу іх працавітасць і знаньня, можна было даць права на тымчасовае заняцьце мейсца вучыцеля ў беларускіх народных школах. Асабліва трэба адзначыць поступы ўсіх вучнёў у нямецкай мові і здольнасьці вучыць самым асноў нямецкай мовы. Поступы у прадметах, выкладаных па беларуску, былі прызнаны здаволіваючымі. С прычыны таго, што пасьля закрыцьця некаторых школ на лето часць вучыцелёў мае свабодны час, ад 1 ліпня да 31 жніўня 1917 г. у Сьвіслачы ладзіцца для беларускіх вучыцелёў паўтарыцельны курс. Тут будуць узмацованы і пашырэны ўжо узмацованые знаньня. Заявы ахвотнікоў ехаць туды трэба падаваць безпасрэдна кіраўніку курсу, школьнаму інспэктару у Сьвіслачы.

# Рэволюція у Расеі.

ЛЮГАНО. Пецярбурскі карэсп. «Stampa» даносіць, што італьянскіе дэлегаты мелі доўгую гутарку с пецярбурскай радай раб. і салд. Італьянцы адзначылі крайнюю патрэбу далей ваеваць, бо нельга спадзевацца ў Нямеччыне рэволюціі, а так сама справядлівага міра пры учасьці нямецкаго народу. Аднак, расейскіе соцыалісты стаялі на тым, што магчымы такі мір, каторы правёў бы ў жыцьцё ідэалы народаў без далейшаго праліцьця крыві. Карэспандэнт у канцы кажэ: Хаця расейскіе соцыалісты—ўсе проці сэпаратнаго міра, але яны ўсе да аднаго ня хочуць далей біцца“.

ШТОКГОЛЬМ. «Работніцкая газэта» пытаецца, якое права мае францускі буржуазія ваеваць далей за Эльзас Лётарынгію і грвзіць гэтак усей Эуропі, а ў тым ліку і Эльзас-Лётарынгіі, новымі апусташэньнямі.

У часі апошняго бунту расейскіх войск у Франціі с-паміж бунтаўшчыкоў выбралі 150 кіраўнікоў і кожнаго дзесятаго разстрэлялі.

БЭРН. (В.Т.Б.). На ўсерасейскім з'езьдзі раб. і салд. міністэр Цэрэтэлі сказаў:

„Мы хочэмо зрабіць новую умову, згодлівую с прынцыпамі расейскай дэмократіі. Мы напружым уже сілы, каб наша праграма была прынята саюзьніцкімі правіцельствамі. Тымчасовы урад учыніў крокі дзеля падгатоўкі конфэрэнціі саюзьнікоў дзеля рэвізіі саюзьніцкіх умоў“.

Ленін востра нападаў на тымчасовы урад, асабліва на прызыў Керэнскаго да наступленьня, называючы апошні здрадай.

13 чэрвеня перад памятнікам Пушкіна ў Маскве большэвікі зрабілі дэмонстрацію проці тымчасоваго ўраду і капіталізму. Адзін з дэмонстрантоў сказаў, што штыкі трэба ўжыць не проці немцоў, а проці тымчасоваго ураду.

На ўсерасейскім з'езьдзі раб. і салд. значна пераважываюць меньшэвікі. У праграмнай заяві сказано, што мір магчымы будзе тады, калі ва ўсіх старонах работнікі здабудуць вагу у загранічнай палітыцэ. Выяўляецца сільная нязгодлівасць між прэдстаўнікамі Пецярбурга і правінціі.

ШТОКГОЛЬМ. Партыя Леніна падала радзі раб. і салд. заяву с пратэстам проці лозунга саюзьнікоў: вайна да аканчацельнай пабеды!—і дамагаючыся прыняць у аснову ніжэйпісанае:

1) аннэксія—гэта ня толькі заняцьце зямель у часі вайны, але і наагул захват зямлі другога народу бяз добрай згоды яго.

2) усе умовы с саюзьнікамі, зробленые перад рэволюціей, трэба лічыць неважнымі і апублікаваць іх.

3) рада раб. і салд. павінна той час звярнуцца да ўсіх ваюючых старон — да кожнай асобне, падаўшы акуратна апрацаваны праект міра.

На грунці гэтай праграмы партыя большэвікоў гатова прыняць на сябе адказ за правіцельство.

Агульны сход рады раб. і салд. выбраў камісію с 15 душ, каб прыгатаваць галасаваньне за ці проці вайны.

Родзянко, каторы ўсё ешчэ ўважае сябе за маршалка Думы, хаця яна папраўдзі ад мая не істнуе, сазваў нідаўна так званы «поўны сход» Думы, на якім было некольки тузіноў кадэтоў і акцябрыстоў. «Дума» прыняла рэзолюцію, дамагаючыся наступленьня разам с саюзьнікамі, каб умацаваць у Расеі волю. З гэтай прычыны соцыалісты заявілі, што расейскі народ не мае нічога супольнаго з гэткімі «перажыткамі старасьвеччыны». Прамовы Родзянкі і Мілюкова маюць значэньне толькі як успамін аб гістарычных фактах.

ШТОКГОЛЬМ. З'езд соц.-рэв. прыняў рэзолюцію аб выключэньні Керэнскаго з ураду партыі, бо яго паступкі на фронці нязгодлівы с партыйнай праграмай.

ПЕЦЯРБУРГ. Чхэідзэ аднаму амэрыканскаму журналісту на пытаньне, як Амэрыка можэ найлепш памагчы Расеі, адказаў: „Найлепшая помач — гэта скоры мір“.

Староннікі Леніна баяцца рэакціі.

На нарадзі раб. і салд. адзін с прамоўцаў гаварыў аб прыгатаванай у обласьці войска донскаго спробі зрабіць контррэволюцію. Казакі выгналі ўсіх падазрыцельных людзей і маняцца узвясьці на трон дынастыю Мікалая Мікалаевіча.

ПЕЦЯРБУРГ. (Рэўтэр). На прыватнай нарадзі Дума прыняла рэзолюцію, называючы сэпаратны мір і бязчыннасць на фронці здрадай саюзьнікоў. „Наступленьне той час патрэбно дзеля таго, каб забаспечыць Расеі здабытую волю“.

ШТОКГОЛЬМ. На расейскім броненосцы «Гангут» і крэйсэры «Діана» узняўся бунт.

ПЕЦЯРБУРГ. Херсонскі ваенны округ аб'явіў сваю аўтономію.

У Троіцку (ў Сібіры) былі сурёзные разрухі. Народ узяў штурмам склады спірту і разграбіў іх. Ад перапою памерло 200 душ.

ШТОКГОЛЬМ. Даносяць, што дэзэртэрство с фронту ізноў узрасло с прычыны таго, што „ад салдатоў вымагалі прысягі, што яны споўняць прыказ аб наступленьні і будуць стрэляць у неслухмяных таварышоў. Гэта прысяга, прэдложэная Керэнскім, вызвала ў арміі страшэннае абурэньне. Некаторые пецярбурскіе газэты даюць непацьверджэную чутку аб пакушэньні на Керэнскаго пасьля яго павароту с фронту. З другога боку даносяць, што Керэнскій с прычыны цяжкай хваробы нырак ляжыць цяпер у ложку.

«Русск. Інв.» пішэ, што турэцкім і курдскім атрадам пры Керманшаху, ў Пэрсіі, ўдалося прарвацца цераз расейскі фронт і знішчыць зносіны войск с тылам. Прарыў гэты ўдаўся с прычыны недахваткі ў некаторых часьцях дысцыпліны. Пэрскі народ памагае варожым сілам, якіе апынуліся стылу за расейскім фронтам.

ПЕЦЯРБУРГ Анархісты захапілі выдавецтво і друкарню «Рускай Волі».

ЦУРЫХ. Рада раб. і салд. пастанавіла перанесьці царскую сям'ю ў якую-будзь крэпасць.

Расейскі міністэр фінансоў, Шінгарёв, трэбуе павышэньня падаткоў на заможные станы і на заработкі ў часі вайны, устанаўленьня налога на звольненых ад ваеннай службы, павялічэньня на 200% тарыфа за перавозку тавароў і на 50% — за перавозку пасажыроў.

КОПЭНГАГА. Абвіненьне генэрала Куропаткіна ў тым, быццым ён у Туркестані раздаваў расейцам аружжэ дзеля пагрому мейсцоваго народу, аказалося несправядлівым.

## З усяго сьвету.

АФІНЫ. (В.Т.Б.). Адозву караля Александра да грэцкаго народу францускіе газэты спаткалі вельмі непрыхільна, бачучы ў ей запаведзь, што новы кароль будзе ісьці сьледам за палітыкай старога.

САЛОНІКІ. Агульны пагляд—такі, што Вэнізэлёс не адкладаючы возьме упраўленьне гасударствам у свае рукі.

ЛЮГАНО. Тут былі дэмонстраціі проці грэцкаго караля. Пры гэтым над яго асобай былі ўчынены гвалты. Кароль быў прымушэн схавацца ў кавярню, адкуль пасьля вярнуўся у сваю кватэру пад ахранай салдатоў і паліціі.

ПАРЫЖ. У Дубліне адбыліся стычкі між паліціей і ірландзкімі нацыоналістамі. Аб настрае ньні ірландцоў гаворыць факт, што ад часу пакараньня сьмерцю Казэмэнта ў англіцкую армію паступіло менш за 100 ірландзкіх дабравольцаў.

БЭРН. Парыжскіе газэты даносяць з Гішпаніі аб забастоўках у капальнях, аб руху між усімі жалезнадарожнікамі, аб праціўленьні чыноўніцкіх саюзоў цэнтральнай уласьці, аб крайняй недастачы спажыўных прадуктоў і руху ў Каталоніі да незалежнасьці.

Англіцкіе газэты друкуюць падробнасьці. «Daily Express» і «Manchester Guardian» кажуць аб рэволюцыйным руху.

---

йшлі, ажно далёка ззаду астаўся гук і шум вёскі і нічога не было чутно. Зарагатала дзіка сава над імі, ў самые вочы захлопаў ім кажан сваімі халоднымі брыдкімі скрыдламі, але яны йшлі без аглядкі і дабраліся да магільніка. Там знайшлі яны палянку, заросшую папарацьцю. Мейсцамі поўзалі бліскучые сьветлякі, каторые выглядалі, нібы діамэнтовые жывые зорачкі...

Ціхутка брылі па лесі Тодар са сваей Тадорыхай і знайшлі... Знайшлі на крушні пад дуплаватым дубам златацьвет цудадзейны... Як толькі ўзялі яны тую кветку ў рукі, ні адтуль ні адсюль з'явіўся прад іх вачыма высокі сівы старэц... Таемнасьцю і дабратой бязмернай сьвяціліся яго блакітные вочы, доўгіе валасы белым сьвятлом мігацелі на залатых вопратках. Гэта быў сьвяты Ян.

— Добры вечар, дзеткі мае! — казаў ім сьв. Ян сваім мэлядыйным голасам. — Вы знайшлі сваё шчасьце! Першые вашы тры жаданьня споўняцца, але толькі да трэйціх пеўнёў, бо пасьля ўжо кветка губляе сваю таёмную сілу. Кажыце тры жаданьня! — паўтарыў ім сьв. Ян і счэз.

Як асалавелые, стаялі Тодар с Тадорыхай і ня ведалі з радасьці, што рабіць, але тут першые пеўні прапеялі і напомнілі, што трэба нешта выбраць.

— Гм... да душы, ня ведаю, с чаго пачынаць! — буркнуў Тодар пад нос.

— І я ня ведаю! — адказала Тадорыха.

— Кажы ты! — звярнуўся ён да яе.

— Не! Кажы ты! — адказала яна яму.

— Гм-м — пачаў Тодар зноў — кабы, кабы пры мне пляшка гярэлкі, дык я бы ведаў, чаго прасіць, кабы пляш... — але не ўсьпеў ён скончыць, бо грукнуло — стукнуло ўвакруг і бытцым жывые пачалі з усіх бакоў сыпацца да Тодара пляшкі рознай велічыні, рознаго фасону, пляшкі ды пляшкі, толькі баўтыхалася ў іх гарэлка,— як раз карчма!

— Ай, што я нарабіў! — усхапіўся Тодар.

— Ай, шэльма! — грымнула Тадорыха і тут ужо рассупоніла свой бабскі язык: каб ты камянем сеў на гэтай паганай гарэлцы! — ажно зубамі заскрыгатала яна са злосьці — каб ты кам... — але не пасьпела і яна скончыць, бо грукнуло, стукнуло ўвакруг, і Тодар камянем сеў на вялікай гурбе плышак і ня мог ні падняцца, ні скрануцца са свайго мейсца.

Тутака ўжо яны абодвы абамлелі ад перапуду: другое жаданьне ў глум пайшло! Гэтаж яны маглі прасіць у Бога багацьця, золата, хату новую, а то нейкае безгалоўе выклікалі на галовы свае!

Толькі адно жаданьне асталося. Каб хаця у апошні раз пудлы не даць!

Другіе пеўні прапеялі.

— Чаго прасіць? — думаў Тодар.

— Чаго прасіць? — думала Тадорыха.

Ды заплакалі абодвы. Нашто ім цяпэрака бязмерные багацтвы, калі гаспадару прыдзецца камянем на адным мейсцы сідзець?...

— Не! — лепш ужо, Божухна, я хачу зноў стаць гэткім, як і быў раней! — папрасіў Тодар — бо на што мне багацьце, калі... — але не пасьпеў ён скончыць, бо грукнуло, стукнуло, і счэзьлі пляшкі з гарэлкай, і Тодар здаровы падняўся са свайго мейсца. Прапеялі трэйціе пеўні, і Тодар кінуў кветку на зямлю.

— Шчасьце ня кветка — ў рукі ня возьмеш! — сказала Тадорыха, ўзяўшы за руку сумнаго, як ноч, Тодара, і яны ціхутка пайшлі назад да закурэнай, падгніўшай хаткі сваей...

**Змітрок Бядуля.**



Фотографія западозрэнай у душэгубстве Зофіі Шымко. Папраўдзі, яна худзейшая.

Фотографія старшаго сына яе, Міхала Шымко.

# Апавешчэньне.

## 200 марак награды.

У домі № 42 пры Зарэчнай вуліцы, знойдзены крэпка падгніўшые трупы старой кабеты і больш маладой дзяўчынкі. Трэба думаць, што забітые асобы — гэта Гэлена Бутрымовіч з Дзьвінскі і дзяўчынка па імі Ядвіга каля 8 гадоў, сваячка Зофіі Шымко, па мужу Ромаль, пражываючай у домі № 42 пры Зарэчнай вул.

За забойцу трэба лічыць, як усё паказвае, Шымковую.

7 гэтаго месяца яна са сваімі дзяцьмі — двома хлопчыкамі 9 і 12 гадоў і дзяўчынкай 10 гадоў пакінула сваю кватэру і, мусіць, знаходзіцца ў Вільні ці ваколіцах.

Хто задзержыць ліхадзеёў і магчымых супольнікоў іх, або дасць ведамасьці аб іх асобах і мейсцу бытнасьці, паводлуг якіх іх можна будзе арэштаваць і пакараць, той атрымае награду да 200 м.

Усе ведамасьці трэба аддаваць пану Stadthauptmann'у Вільні (Polizeiverwaltung).

Цяжкіе кары ждуць таго, хто дасць ліхадзеям і іх супольнікам схоўку або іншую помач.

Вільна, 16 чэрвеня 1917 г.

Der Chef der Militärverwaltung Litauen,
Franz Josef Fürst von Isenburg-Birstein
Oberstleutnant á la Suite der Armee.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

### Нямецкіе апавешчэньня:

**20.VI. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* На фронці Фляндрыі і Аррас — палажэньне без перамен. Ад Бэссінгэ да Фрулінгэн трывае артылерыйская бітва.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Дзьве спробы французоў адабраць акопы каля Іртбіз адбіты. У Шампані ворагі пасьля сільнаго агня артылеры ўварваліся ў пярэднюю часць нашаго акопу на палудзенным заходзі ад Высокай гары.

**На усходнім тэатры і македонскім фронці—нічога выдатнаго.**

**21.VI. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Між Ізэрам і Ліс у вечары артылерыйская бітва дайшла вялікай сілы. На палудзенным заходзі ад Ленс англічане атакавалі на паўночным беразі патока Сушэ. Адбітые на крылах і ў цэнтры, яны ўварваліся ў наш пярэдні акоп. Энэргічнай контратакай мы не далі англічанам пашырыць іх удачу.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* У заходняй Шампані энэргічнай контратакай адваёвана большая часць абшару, здабытаго французамі 18 чэрвеня пры Высокай гары.

На іншых фронтах—нічога выдатнаго.

Паварот ротмістра Ріхтгофэна с пабыўкі дома адзначэн яго 53-цяй пабедай над ворагам.

### Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА. 18. VI. **Італьянскі тэатр:** На адрэзку Ромбон нашы дружыны выкінулі ворагоў з аднаго пункта, ўзялі 1 афіцэра і 25 салдатоў і удзержаліся проці некольkіх контратак.

ВЕНА. 19. VI. **Італьянскі тэатр:** На плоскагоры «Сямі Грамад» і ў даліне Суганы між Ас'ярго і Брэнтай учора раніцай узнялася новая артылерыйская бітва.

ВЕНА. 20.VI. **Італьянскі тэатр:** Пасьля 24-гадзіннай артылерыйскай падгатоўкі ўчора раніцай на плоскагоры «Сямі Грамад» пачаліся пешые штурмы. Нашы войскі зламалі ўсе атакі ворагоў. У ваколіцах Ціма ді Оці італьянцы, праўда, здабылі некольки крокаў зямлі, але контратакай мы адабралі яе назад.

### КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. (В. Т. Б.). У месяцы маі затоплено ўсяго 869.000 тонн. Гэтак, ад пачатку неагранічэнай падводнай вайны затоплено ўсяго 3 мільёны 655 тысяч тонн.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). У паўночных водах ізноў затоплено 26.000 тонн. У Сяродземным моры 15.VI адна падводная лодка затапіла 3 даверху нагружэные параходы ёмкасьцю разам 19.000 тонн.

БЭРЛІН (В.Т.Б.).У Англіцкім каналі нашы падводные лодкі ізноў затапілі 5 вялікіх англіцкіх параходаў, 5 паруснікоў і 8 рыбаловаў.

ЛОНДОН. (Рэўтэр). Варожая падводная лодка 2 чэрвеня затапіла англіцкі транспорт у усходняй часьці Сяродземнаго мора. Утанулі 52 салдаты і 11 матросаў.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Нашы марскіе лятуны на узбярэжжы Фляндрыі збілі тры варожые самалёты. На поўначы ад Джункірхэна мы затапілі англіцкую торпэдную лодку і ўзялі людзей у палон.

ВЕНА. Аўстрыяцка - вэнгерскі лятучы флот у красавіку і маі утраціў у бітвах на паветры 9 самалётаў. Ешчэ 5 самалётаў былі прымушэны спусьціцца за нашымі лініямі. Нашы лятуны знішчылі 28 варожых самалётаў, у тым ліку 18 на італьянскім фронці.

ЦУРЫХ. Есць сільная аснова думаць, што англіцкая глаўная каманда злучэна с француськай.

### ЖАДАНЬНЯ УКРАІНЦОЎ.

ШТОКГОЛЬМ. Дэлегаты украінскай соц.-дэм. партыі у Аўстрыі падалі на Штокгольмскай конфэрэнціі гэткіе жаданьня: развязка нацыональнай справы, як вымога справядлівасьці і забаспечэньне трывалаго міра; перастройка Аўстрыі, Расеі і Балканскіх дзержаў з насяленьнем розных нацыональнасьцей у фэдэрацiі роўнапраўных і самаупраўляючыхся народаў; магчыма скоры мір без анексій і контрыбуцій; зварот шкод народам, на зямлі каторых велася вайна.



# Спісак беларускіх кніжак.

Ведаючы цану кнігі, найлепей прысладь грошы наперад — гэтак танейкаштуе перасылка.

(Кніжкі азначэные *біс* — выйшлі і лацінскімі і «рускімі» літэрамі.

## I. Навуковые даступные для усіх.

| | | Цэна руб. | кап. |
|---|---|---|---|
| біс | Ян Баршчэўскі, першы беларускі пісменнік. Біографічны нарыс Р. Зэмкевіча | — | 20 |
| | Praktyčnye rady ab harodnictwie | — | 7 |
| | Гутаркі аб небі і зямлі з рысунками | — | 15 |
| біс | Цукер, В. Тройцы | — | 3 |
| біс | Гутаркі аб гаспадарцы | — | 3 |
| біс | Як ратаваць уздутую жывёлу | — | 3 |
| біс | Як бараніцца ад халеры | — | 1 |
| біс | Як рабіць добрые рамовые вульлі | — | 5 |
| біс | Зямельная справа у Новай Зэляндіі | — | 3 |
| біс | Кароткая гісторыя Беларусі—Власта | — | 60 |
| | Bł. Andrej Babola mučynik | — | 5 |
| | Pčalina—żywiołka małaja a karyści daje mnoha | — | 30 |
| | Як багацеюць чэскіе селяне | — | 10 |
| | Як выбіраць дэпутатоў у Гас. Думу | — | 3 |
| | На дарозе да новаго жыцьця. А. Новіны | — | 20 |
| | Alkahol | — | 2 |
| | Rady dla matak | — | 3 |
| | Św. Jozafat Kuncewič | — | 3 |
| | Našto biełarusam gazety | — | 3 |
| | Колькі слоў аб дзявочай опратцы на Беларусі | — | 10 |

**Вільня, Завальная 7. Беларуская Кнігарня.**

Прысылаючы грошы почтай трэба адрэсаваць так: **Wilnia, Wallstrasse 7, Weisruthenische Buchhandlung, W. Lastowski.**

Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Редактар Язэп Салавей.